


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (1078) БЕЛАСТОК 24 КАСТРЫЧНІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

## Спакойная восень дзядзькі Язэпа

У яго роднай вёсцы, у Вульцы Нурэцкай, Язэпа Пытля маладыя і старыя называюць проста Юзэпам. Не Язэп, ані Юзэф, а менавіта Юзэп. І іншай клічкі ён не мае.

Усе яго любяць, бо ён як ніхто іншы ў вёсцы патрапіць красамоўна расказаць пра самыя звычайныя справы.

— *О, Юзэп тобі наговорыт!* — з добразычлівай усмешкай сцвярджаюць у Вульцы Нурэцкай. — *Він тобі наговорыт сто вёрст до небёс і всё лесом.*

І сапраўды, калі ў свабодны час па старадаўняй прывычцы збяруцца сяляне недзе на вулічнай лавачцы, каб абмяняцца навінкамі дня, найчасцей голас мае дзядзька Язэп. Тэмы для сваіх расказаў бярэ ён з жыццёвага вопыту, з кантактаў з людзьмі, з пабыўкі на кірмашах і фэстынах. Васьмігадовым хлапчуком разам з бацькамі і іншымі аднавяскоўцамі ён у 1915 годзе рушыў на вялікую вандроўку ў бежанства па шырокіх прасторах царскай Расіі, якая тады канчала сваё існаванне. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны Язэп вярнуўся ў родную вёску, жыў з братам, абсяваючы супольна з ім бацькоўскую гаспадарку.

Пабываў я там цалкам нядаўна. Быў святочны сонечны дзень. Як звычайна, застаў я дзядзьку Язэпа сярод аднавяскоўцаў на вулічнай лавачцы.

— Як вам жывецца?

— *Ой, знаеш, Віхтыр,* — адказаў ён на сваёй роднай гаворцы, — *дочыкаліся мы тыпэр жыття, што і в раёві ліпшны будэ.*

І пачаў ён доўгі расказ пра колішняе і цяперашняе жыццё сялян у нашых вёсках.

— Ты ж ведаеш, было нас у бацькі двое: я і Мікалай. І што мы атрымалі ў спадчыне? Некалькі гектараў гэтай зямлі і столькі навукі, што ледзь зможам распісацца. А вось мае дзеці — трое іх у мяне, сын і дзве дачкі — ужо не вымушаны азірацца на тое, што бацька ім у пасагу пакіне. Яны вучаныя, бацькоўскай зямлі для свайго сямейнага шчасця зусім не патрабуюць. Дочкі павыходзілі замуж, сын ажаніўся. Адна дачка жыве і працуе ў Алецку, другая трапіла аж у Лукаў, а сын у

(Працяг на стар. 4)



*Жыхары прыгранічнай паласы ў Пружанскім раёне і Белавежскай гміне часта сустракаюцца на граніцы (да „Сустрэчы ля братняй магілы“ на стар. 3).*

## З любоўю да роднага

Тут са школьнага ганку рукой падаць да пакручастага русла Нарвы, прасторы надрэчных лугоў і купчастых кустоў лазняку, якія, быццам вожыкі за яблыкамі ў садзе, разбрыліся па гэтай роўнядзі ды раптам замерлі на месцы ад нечаканага шолаху, што прынёс аднекуль свавольнік-вецер. Вожыкі-кусты так і асталіся дняваць, а вось яблыкі зніклі кудысьці. Ці часам не ў сялянскія прысады, што ў гэтым годзе аж угінаюцца пад ношай буйнага ўраджаю?..

— Вельмі ж у нас хараша вясною, калі на лугах зашаўкавіцца трава ды зацвіце лотаць, — як быццам згадваючы мае думкі, кажа пані **Валя Назарук** — настаўніца беларускай мовы. — Што ж, Янова прываражыла да сябе і мяне і мужа. Праўда, муж тутэйшы, з суседняга сяла Градочнай, але я родам з крыху далейшага адгэтуль Старога Ляўкова.

В. Назарук адразу пасля заканчэння ў 1962 г. Гайнаўскага беларускага ліцэя прыйшла працаваць некваліфікаванай настаўніцай у Янова. Спачатку з думкай „абы зачапіцца“, але настаўніцкая прафесія прыйшлася ёй да спадобы і яна здабывае педагагічныя кваліфікацыі і трывала звязвае сваё жыццё са школай і Яновам.



— Не скажу, каб навучанне беларускай мовы адбывалася ў нас без праблемаў, — заўважае В. Назарук. — У суседняй з намі школе ў Даратынцы гэты прадмет не вывучаецца. Пасля чацвёртага класа дзеці адтуль прыходзяць вучыцца далей у нашу школу, але ўрокаў беларускай мовы не наведваюць. Гэта вельмі ўскладняе працу ў школе і не спрыяе выхаваўчаму працэсу.

— Навучанне беларускай мове, — расказвае В. Назарук, — асабліва граматыцы, вяду, зважаючы на матэрыял, які дзеці ўжо авалодалі або яшчэ засвойваюць на ўроках польскай мовы. Для прыкладу: на польскай мове ў чацвёртым класе дзеці знаёмяцца са скланеннямі назоўнікаў, вось тады і я бяру скланенне беларускіх назоўнікаў. У такім выпадку не патрэбны дадатковыя паясненні, што такое скланенні, канчаткі і г.д., знаёмлю дзяцей з беларускімі назвамі граматычных паняццяў, асаблівасцямі беларускіх скланенняў і ў мяне астаецца многа часу на практычныя заняткі па мове. Зрэшты, у сваёй працы з дзяцьмі кладу найбольшы націск на самастойныя вусныя і пісьмовыя выказванні вучняў, чытанне, дэкламацыю, апавяданне з прачытанага, убачанага ці пачутага. Вучні старэйшых класаў праводзяць інтэрв'ю з дарослымі на такія тэмы, як „Жыццё моладзі калісьці і цяпер“, „Праца ў полі даўней і ў нашыя дні“, „Як калісьці жалі ў полі“ і шэраг іншых. Вялікая каштоўнасць гэтага ў навучанні і выхаванні несумненная: па першае, дзеці вучацца прымяняць на практыцы свае веды па мове, па-другое, яны знаёмяцца з гісторыяй і сучаснасцю сваіх родных мясцін, па-трэцяе, пераконваюцца, што народная ўлада прынесла нам карэнныя пераўтварэнні на лепшае ў нашым жыцці. Апрача падручніка ў нас на ўроках частым госцем з'яўляецца „Зорка“ і „Вясёлка“ ў малодшых класах, „Бярозка“, „Маладосць“ і „Ніва“ — у старэйшых. Што ж, на беларускай мове трэба працаваць асабліва разважліва і ўдумліва, улічваць кожны элемент, фармаваць улюбёнасць ва ўсё

(Працяг на стар. 4)

## ТРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Ой, салавейку, пташко маленька... ● Бабікі ● На прыёме ў начальніка гміны ● У мінскіх аўтамабілебудаўнікоў ● Чаго трэба пазбягаць у дзень нараджэння ● Войска Польскае па-народнаму ● У зялёнай вёсцы Кумяла ● „Чырвоная змена“ пра Алеся Барскага ● Весткі з Бельска, Полька, Белавежы, Чаромхі, Кузніцы, Паўночнага Вострава ● Калі сніцца мыла ● Песня „Czemu mnie nie chcesz”.**

*Новыя вершы*

## ЗАКЛІНАННЕ

Лістоты шэлест, ззянне бліскавіц,
І срэбра хваль, і хваляванне жыта...
Хай гэта ўсё ў душы маёй звініць
І сэрцам будзе перажыта.

Усё, што ёсць, і тое, што было,
Маімі спадарожнікамі будзьце —
І колеры, і гукі, і святло,
І думкі, і пачуцці.

Няхай дарог не ашчаджае лёс,
Ані гасцінца, ані дзікай сцежкі.
Адно хай вочы не баяцца слёз,
А вусны — ўсмешкі.

Ісці, пакуль вятры не адгулі,
І верыць, і змагацца.
І з казачнаю шчодрасцю зямлі
Зраўняецца душы маёй багацце.

▲

Лясны гушчар і зорны бляск начы,
Маўкліва-безуважны і сцюдзёны...
Мне ад яго нікуды не ўцячы
І не схавацца ў тлуме спраў
штодзённых.

Калі прыходзіць восеньская ноч
І гоніць прэч будзённую турботу,
У поглядзе нядрэмных зорных воч
Чытаеш аднастайнасць і самоту.

▲

Пакутнае цярушанне хвілін...
Усюды змрок, усюды змоўк пануе...
І вяршаліны хвояў і ялін
Над сэрцам калыхаюцца панура.

І думка нараджаецца адна
З глыбінь, знянацку, як выратаванне,
Што не пражыць ні ночы і ні дня
Без чыстых дум, узнёслых
парыванняў...

▲

Куток, дзе я калісьці рос
У светлым ззянні далягляда,
У ветлым шапаценні рос,
Хоць раз у год наведаць рады.

Мой лес, мой луг, мая рака,
Нішто мне тут не пагражае...
Пясочак жоўценькі рука
З пяшчотаю перасыпае.

Сачу за плёскатам вады
І аб сваім мяркую лёсе —
Ці ўдаль плывуць мае гады?
Ці лепшае тут засталося?

▲

Чужой спагады грэшна дамагацца,
На плечы тых, з кім побач кожны міг,
Каб нам адным пакутна не ўгінацца —
Узвальваць мех непамыслот сваіх.

Чужой спагады грэшна дамагацца,
Чужой спагады і чужых трывог.
Нашто дзяліцца з іншымі багаццем,
Якое сам ты кінуў бы, каб мог?

Чужой спагады грэшна дамагацца,
Сціскаць далоні і клясці свой лёс.
Хто енчыць век, таму не здагадацца,
Што нехта плача, ды не мае слёз.

Чужой спагады грэшна дамагацца,
Чысцейшага нічога не знайду,
Як разам з бліжнім плакаць і смяяцца,
Забыўшыся на ўласную бяду.

▲

Быў летні луг, святочны, маляўнічы,
Быў ціхі звон, і не было тугі.
Заўважыў я: калі спакой крынічыць,
Заўжды цвітуць вясёлкамі лугі.

Пасля было сцюдзёнае сузор'е
І лес вячэрні, лес негаманкі...
Мацейкі пах...
І зразумеў ізноў я,
Што і настрой, напэўна, мой такі.

Пасля быў дождж, дакучны,
аднастайны,
Хліпела лістападаўская золь...
А для мяне больш не было ўжо тайны,
Што гэта быў і смутак мой, і боль.

▲

Калі агнём гарыць асіна,
Калі апошняе лісцё
Назло вятрам і сцюжы сіняй
Сваё працягвае жыццё,
Тады ты ставіш без сумнення
(Няхай шугае ліставей!).
Душы імгненнае гарэнне
За неўміручасць даражэй!

**Павел Марціновіч**

# Быццам бы нанава нарадзіліся

Яшчэ месяцаў пару таму назад быў тут толькі лес і тая ж пясчаная дарога, што змейкай уецца між дрэў, дробячыся на ледзь прыкметныя сцяжынкі, якія вялі да скрытых у вечнай зелені хат. Гэтыя сцяжынкі былі адзіным спалучэннем з жыццём. Быццам бы па правадах, ішлі па іх розныя паведамленні і навіны, якія былі такімі ж вузкімі, як гэтыя сцяжынкі. Калі ў Старыне, што ў гміне Дубічы Царкоўныя, глядзелі тэлебачанне, слухалі радыё, жыхары хутароў Бобінка і Круглае (той жа гміны) спаглядалі ў агеньчык газоўкі і думалі: „Калі ж гэта і ў нашых сценах расплывецца электрычнае святло?“ І дачакаліся! Прымеркі рабіліся даўно, але ў сувязі з нязручным распалажэннем хат выкананне адкладалася. Патрабавала яно прадуманасці. І наступіў той доўгачаканы дзень, а быў ім 29 верасня бягучага года, які адчыніў дзверы ў зусім новы свет.

Калі мы наведалі Бобінку і Круглае другі раз, то над дарогай, што некалі адзінока вілася між дрэў, віселі ўжо, быццам бы павуцінне, электрычныя драты. І людзі былі, здавалася, трошкі іншымі. У вачах блішчэў нейкі радасны агеньчык. У кожнага жыхара паявіліся новыя планы. У хатах з'явіліся тэлевізары, радыё. Але тут справа не толькі ў тым, ці цямней ці ясней у хаце. Электрычнае святло — гэта магутны дапаможнік у гаспадарцы. План, згодна з якім праводзілі электрычнасць, сапраўды быў дакладна прадуманы. Ток не толькі даходзіць у хату, але і да гаспадарчых будынкаў, а апрача таго асвятляе яшчэ панадворак. Не трэба будзе ўжо ўпоцемку шукаць той ці іншай прылады або спяшацца з даеннем кароў. Намнога лягчэй будзе цяпер праца жыхароў вышэй адзначаных хутароў. Бо трэба сказаць, што апрача святла залажылі тут электрычную сілу, якая з'яўляецца падкладкай да забеспячэння рознымі машынамі. Яшчэ год-два, і хутары зменяцца да непазнання.

**М. Шаховіч**

# Адказ да чагосьці абавязвае

У 43 (1026) нумары „Нівы“ за 26 кастрычніка 1975 года быў змешчаны фельетон „І зноў пад голым небам“, дзе гаварылася аб распачатай грамадскім чынам і не закончанай **прадпрыемствам „Лес“** (якое згодна з дагаворам узяло на сябе гэты абавязак) пабудове ў вёсцы Войнаўка магазіна на саламяныя вырабы, з якога заадно мелі карыстацца жыхары навакольных вёсак. Згодна з правілам, якога мы прытрымоўваемся, як і кожную крытычную публікацыю, мы і гэтую накіравалі ў тую ўстанову, якая не стрымала данага слова. У гэтым выпадку было Беластоцкае прадпрыемства лясной вытворчасці „Лес“ у Беластоку. Атрыманы і змешчаны 8 лютага 1976 г. у „Ніве“ адказ на нашу крытыку запаліў агеньчык надзеі і нам, і тым, якія з думкай аб будучай карысці ўнеслі ўклад у запачаткаванне пабудовы. А гаварылася ў гэтым адказе, што, разважыўшы ўсе цяжкасці, вырашылі, каб дарма не загінуў грамадскі труд, закончыць пабудову яшчэ ў першым паўгоддзі бягучага года. Але калі мы праязджалі праз Войнаўку ў канцы верасня (заўважце, што гэта ўжо трэці месяц другога паўгоддзя) і праз цікаўнасць кінулі вокам на гэтую пабудову, то там было ўсё па-ранейшаму. Тыя самыя развaліны, тыя самыя паабрываныя дошкі, а новага ані следу. А можа мы проста не разбіраемся ў сучасным афармленні... Але, беручы ўсё на просты розум, бадай, найхутчэй будзе так, што загіне і ўложаны труд, і распачатая пабудова. А шкада, што не ўмеюць людзі стрымоўваць данага слова. (мша)




Кожны неяк рыхтуецца да зімы і кожны гэта робіць па-свойму. Вось, прыкладна, карыстаючыя з прыпынку ў Пасынках вырашылі разабраць памяшканне для чакання. Усё на добрай дарозе. „Шчыра“, відаць, узялі да сэрца нашу крытыку. (мша)

# Сустрэча ля братняй магілы

Братэрскія сувязі жыхароў Белавежскай гміны і Пружанскага раёна ўвайшлі ўжо ў традыцыю.

Сустрэча адбылася і ў апошнюю верасьнёўскую нядзелю. На граніцы сустрэлі нас хлебам і соллю.

Пасля гэтага ля братняй магілы, якая знаходзіцца ў даўнейшай жвіроўні, адбыўся ўрачыста-жалобны мітынг.

— У гэтай магіле, — гаварыў адзін з ветэранаў апошняй вайны, — пахаваны прахі маіх таварышаў па супольнай барацьбе. Тут спачываюць удзельнікі лясной забастоўкі, якая праходзіла ў Белавежскай пушчы ў 1932 і 1933 гадах. Тут ляжаць таксама былыя вязні Картуз Бярозы.

Уважна гляджу на гэтага чалавека. Пасівелыя валасы, грудзі ў медалях, сярод якіх шмат польскіх медаляў і крыжоў, між іншым, Залаты Партызанскі Крыж.

Выступаючых з прамовамі ў гэты дзень было яшчэ многа. Польская мова перапляталася з рускай і беларускай. Гутарка ішла аб нашым цесным супрацоўніцтве ва ўсіх галінах жыцця, аб нашай непарушнай дружбе.

Маладзенькая камсамолка, сакратар райкома камсамола ў Пружанах Валя Кавалевіч расказала нам аб сардэчных сувязях моладзі Пружаншчыны з польскай моладдзю, асабліва з вучнямі ляснога тэхнікума ў Белавежы.

Словы аб дружбе, аб супрацоўніцтве змешваліся тут з адвечным шумам паднебных елак і сосен, пад кронамі якіх, у катлаване даўнейшай жвіроўні, прытулілася братняя магіла. Удзячныя рукі ўпрыгожылі яе помнікам і кветкамі. Ля гэтага помніка на ганаровай варце застылі „на смірна“ маладзенькія воіны, якія, на шчасце, вайну ўжо ведаюць толькі з расказаў бацькоў і дзядуляў, тут таксама на варце яшчэ малодшыя за воінаў пружанскія піянеры.

Час аднак, хаця ён лекар найлепшы, не вылечыў глыбокіх ран. Вось да магілы са свечкай у руках набліжаецца 90-гадовая бабулька з Белавежы. Яна тут страціла мужа. Для яе бяда і гора ды яе асабістая трагедыя аджывае свежым болем. Слёзы і плач многім тут сціскаюць горла.



*Хлеб-соль ад беларускіх сяброў з удзячнасцю прыняў І сакратар гміннага камітэта партыі ў Белавежы Пётр Тарасэвіч.*



*Сардэчныя прывітанні прадстаўнікоў Белавежскай гміны і Пружанскага раёна.*

Вольга Пяскур і яе дачка Зіна, якія працуюць у саўгасе імя Дзімітрава, расказваюць мне пра трагедыю іх сям'і. Бацьку Вольгі арыштавалі гітлераўцы ў жніўні 1941 года і замучылі ў Белавежы, яе маці на два гады пазней гітлераўцы забілі ў вёсцы Вілюкі за Белавежай. Іх родную вёску спалілі. Дзве сястры і брат асталіся на ласцы людзей. Вандравалі ад хаты да хаты. Брат і адна сястра жывуць цяпер у Бельску, другая сястра завандравала аж у Яленюю Гуру. Усім ім — і ў Польшчы, і тым, што асталіся на Беларусі, — жывецца цяпер выдатна. Вось сын Вольгі — Пяскур Пётр — працуе электразваршчыкам у Брэсце і зарабляе ў сярэднім 300 рублёў у месяц.

Такіх сяброўскіх сустрэч і гутарак у гэты дзень было многа, бо граніца, якая праходзіць у Белавежскай пушчы, болей нас яднае, чымсьці раздзяляе.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# „Літаратура і Мастацтва“ пра Алеся Барскага і Віктара Шведа

У мінскім тыднёвіку „Літаратура і Мастацтва“ за 1 кастрычніка г.г., прысвечаным Дням польскай літаратуры, з'явіліся рэцэнзіі паэтычных кніжак Алеся Барскага і Віктара Шведа, выдадзеных нядаўна ў Мінску.

У рэцэнзіі на „Мой бераг“ Барскага („Іду да Белавежскай пушчы“) Ул. Казбярук піша: „...у яго вершах мы знаходзім свежыя мастацкія вобразы, дбайныя адносіны да мовы, цікавыя жыццёвыя назіранні — усё тое, чым вабіць сапраўдная паэзія. Галоўнае — ёсць у яго заўсёды думка і пачуццё, вартыя ўвасаблення ў мастацкіх вобразах.

Умее Алесь Барскі некалькімі штрыхамі стварыць паэтычны малюнак з'явы і перадаць яе зменлівасць, яе прыгажосць...“

Зрабіўшы агляд усёй творчасці нашага паэта, рэцэнзент сцвярджае: „У паэзіі А. Барскага ўвасобіліся найбольш характэрныя рысы і асаблівасці самабытнай творчасці пісьменнікаў Беласточчыны. Цесная сувязь з роднай глебай, з жыццём усёй народнай Польшчы — надзейная крыніца іх поспехаў і здзяйсненняў“.

У сваю чаргу Святлана Хорсун, ацэньваючы „Дружбу“ Віктара Шведа, піша:

„Паэтычныя здабыткі беластоцкага паэта Віктара Шведа добра знаёмы нашаму даросламу чытачу, а вось з вершамі для дзяцей ён выступае ўпершыню.

У першых жа вершах, змешчаных у зборніку, прыемна ўражвае цёплая пранікнёнасць і ўвага аўтара да сваіх маленькіх герояў. Нельга не адчуць яго імкнення зразумець дзіцячую псіхалогію, неяк па-свойму занатаваць непасрэдныя і цікавыя — менавіта дзіцячыя! — выпадкі з жыцця.

Большасць вершаў зборніка раскрывае непасрэднае і светлае дзіцячае здзіўленне кожнай сустрэчай з жыццём, з прыродай...

...Але маленькія героі, якія жывуць у гэтым зборнічку, не толькі пытаюць, цікавяцца незразумелым, але і самі імкнуцца самастойна асэнсаваць яго...

... Што ні верш, — то новы герой, новыя падзеі, іншая настраёвасць. В. Швед піша па-майстэрску, не перагружаючы фразу — ён імкнецца будаваць яе ў лёгкадаступнай і займальнай форме“.

# ВЫРАБЫ З КРЫНАК

У Крынках, як рэдка дзе, „мяккая“ вада. Гэтая „мяккасць“ вады прывяла да таго, што ў Крынках з даўных-даўна вырабляюцца скуры.

Пасля вызвалення таксама было вырашана выкарыстоўваць крынкаўскую ваду для гарбарскіх вырабаў. Адбудавалі гарбарню. Амаль 100 чалавек прыступіла да традыцыйнай тут гарбарскай прадукцыі. У Крынкі зноў сталі прывозіць сыравіну і вывозіць вырабы са скур. І зноў Крынкі сталі вядомыя ў нашай краіне гарбарскай прамысловасцю.

Ад 1966 года датуецца новы перыяд гэтага прадпрыемства. Распачалася далейшая разбудова і мадэрнізацыя гарбарні. На гэта прызначана было 52 мільёны злотых. Праўда, доўга цягнулася разбудова і аднаўленне, аж да 1972 года, але ўрэшце даведзена было ўсё да канца. Пабудаваны быў новы цэх, а да старога дабудаваны яшчэ адзін паверх. Пабудавана была таксама катлоўня і ачышчальня сцёкаў. Гарбарня стала сярэдняй па велічыне прадукцыі ў нашай краіне. Дзённая замочка скур узрасла з двух тон да 6,5 тон. На работу было прынята яшчэ 100 чалавек.

Дзякуючы добрай рабочай атмасферы на прадпрыемстве, належна развіваўся рацыяналізатарскі рух. Цяпер заквашаныя скуры не ляжалі, як раней, 7 дзён, а ўсяго 6 гадзін. Такім чынам, можна было адначасова і паменшыць памяшканне мокрага цэха, і павялічыць замочку скур да 9,5 тон. А на выгаспадараваным месцы дазволіла гэта паставіць дадатковыя бубны — гарбарскія машыны. А гарбарскія машыны ў Крынках самай навейшай тэхнікі. На іх можна вырабляць тавары самай высокай якасці, не толькі на абутак, але таксама на адзенне са скуры.

Цяпер таксама праводзіцца мадэрнізацыя. Ідзе падрыхтоўка да таго, каб пачынаючы ад 1977 года дзённую замочку скур павялічыць да 15 тон. Усё гэта патрабуе ад фабрычнага калектыву самаахвярнасці, а ад кіраўніка — інжынера Яўгена Носка яшчэ большай арганізатарскай дзейнасці.

Гадавая вартасць прадукцыі крынкаўскай гарбарні ў бягучым годзе — 190 млн. зл.

Але не толькі прадукцыяй займаецца кіраўніцтва гарбарні. Займаецца таксама арганізацыяй збыту сваёй прадукцыі. Яўген Носка ездзіць на так званыя „гелды“, дзе спатыкаюцца прадстаўнікі гарбарскай і абутковай прамысловасці, якія выбіраюць патрэбныя сабе матэрыял і падпісваюць дагаворы ў гэтай справе. І тут неабходна дастасоўвацца да вымогаў прадстаўнікоў абутковай прамысловасці, да моды на тыя ці іншыя вырабы. Крынкаўская гарбарня паспявае за модаю. Калі гэта трэба, хутка змяняе асартымент прадукцыі.

**М. Хмялеўскі**

## АД РОДНЫХ НІЎ

**ХУТАРЫ**

Ужо прышоў да нашых вёсак
на работу лепшы час,
німа вузенькіх палосак,
хутары цяпер у нас.

Мы на іх гаспадаруем,
ужо будзе пяты рок,
гарэм, сеем, барануем
і ўздоўж і ўпапярок.

Цяпер нам лягчэй рабіці,
і расце усё ляпей,
адно толькі стала жыці,
скажу вам, крыху смутней.

Калісь то усе рабілі
ад сябе непадалёк,
і пад ліпу ўсе хадзілі
адпачыці у цянёк.

Аб калісьнім гаварылі,
як дзяды нашы жылі.
Пасядзелі, пакурылі,
вады сцюдзёнай папілі.

Цяпер адзін з гары едзе,
Другі робіт за гарой...
Мала нашыя суседзі
спатыкаюцца з сабой.

**Фёдар Хлябіч,**
Рыбакі

# 7 БРАШУР АБ БЕЛАВЕЖЫ

Расце лік кніжак аб Белавежы. Вось нядаўна выдавецтва „Ураджай“ выпусціла на рускай мове навукова-папулярную серыю „Белавежская пушча“, у склад якой уваходзіць 7 брашур. Напісалі іх навуковыя працаўнікі Запаведнапаляўнічай гаспадаркі „Белавежская пушча“.

Першая брашура — гэта „Музей природы“. Мае яна характар даведніка. Аўтары — Сцяпан Качаноўскі і Уладзімір Дацкевіч знаёмяць чытача з экспанатамі музея пушчы, які размешчаны ў мясцовасці Каменюкі. Тэкст дапаўняюць удалыя здымкі заслужанага працаўніка культуры БССР М. Ананіна, а таксама шматлікія малюнкі, прадстаўляючыя звяроў.

Так здарылася, што гісторыя пушчы неразлучна сплятаецца з гісторыяй зуброў. І таму другую брашуру аўтары С. Качаноўскі і Людміла Корачкіна назвалі проста „Гісторыя. Зубры“. Падкрэсліць трэба ў ёй старонкі (вельмі цікавыя), прысвечаныя вобразу жыцця караля пушчы. Нічога дзіўнага! Л. Корачкіна з'яўляецца ў беларускай частцы пушчы галоўным зубраведам, зубра ведае, як сваіх пяць пальцаў, і што галоўнае, умее пра яго захапляюча напісаць. Чытач можа даведацца нават пра такія дробязі, як выглядаюць вочы гэтага пушчанскага ўладара ў момант, калі яго раззлаваць, а як — калі ён зусім спакойны.

Зараз у белавежскіх нетрах жывуць 53 віды млекакормячых. Іх характарыстыку дае ў брашуры „Звярына“ У. Дацкевіч. Тэкст просты, ды і цікавы. Відаць зараз жа, што аўтар многа гадоў назіраў жыхароў нашай жамчужыны. Ужо ў некалькіх сказах зможа сказаць столькі аб даным відзе, колькі не скажа на цэлай старонцы нехта іншы.

Падобнымі прыкметамі адзначаецца наступная брашура У. Дацкевіча „Птахі“. Цяжка апісаць у невялічкай кніжачцы 212 відаў птушак, жывучых у пушчы, таму аўтар цікавейшых ці рэдкіх, а каштоўных птушак прадстаўляе шырэй, астатнія ж карацей, але ўсё чытаецца адным духам.

Калі напомніць, што ў нетрах Белавежы налічваецца каля 8.500 відаў насякомых, не цяжка ўявіць сабе, перад якой цяжкасцю стаяла Наталія Дзьячэнка — аўтар брашуры „Насякомыя“. Ды яна справілася з заданнем паспяхова. У свет гэтых захапляючых істотаў уводзіць чытачоў лёгка, з дозай гумару. Тэкст роіцца ад разынак, якія набліжаюць энтамалогію ўсім, хто да гэтай пары ёй не цікавіўся.

Лес без грыбоў? Гэтага нідзе не бывае, нават у маленькім пералеску знойдзецца якісьці грыбок. А што гаварыць, калі ўспомніць аб пушчы. Дзе іх больш, як не тут? Павел Міхалевіч многа гадоў займаецца даследаваннем грыбоў, нічога дзіўнага, што менавіта ён напісаў брашуру „Грыбы“, у якой многа месца прысвяціў родам невядомым і паразітавым, пра якіх мы наогул мала ведаем. Тэкст дапаўняюць 6 табліц з малюнкамі розных відаў, паяўляючыхся ў розныя перыяды года.

Апошняя брашура — гэта „Лясы“, напісаная Аляксандрам Стралковым. Аўтар апавядае ў ёй аб родах лясоў, дрэвах-гігантах, рэдкіх і рэліктавых раслінах.

Цэлая серыя багата ілюстравана. Варта падкрэсліць графічную апрацоўку брашур аўтарства Ю. Цюрына. Дасканала ўводзіць яна чытача ў тэмы пасобных томікаў, выдадзеных у злучаным тыражы 360 тыс. Думаю, што серыя „Белавежская пушча“ дасць сваім набыўцам вялікую карысць, значна паглыбляючы іх веды аб жыцці, гісторыі і прыгажосці нашай жамчужыны.

**Пётр Байко**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...у нашай дзяржаве ў 1985 годзе будзе каля 40 мільёнаў жыхароў, у тым ліку звыш 5,5 млн. чалавек ва ўзросце шасцідзесяці і больш гадоў. Лік людзей ва ўзросце васьмідзесяці гадоў узрасце да паўмільёна.

...у нашай краіне працуе 120 тысяч медсясцёр.

...Таварыства прыяцеляў дзяцей (ТПД) у Польшчы налічвае каля аднаго мільёна членаў, згуртаваных у 23 000 гурткоў.

(ця)

## ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



Тадэуш Дэя працуе на малачарскім прадпрыемстве ў Міхалове ад пачатку яго існавання. Ён — адзін з лепшых, дысцыплінаваных і сумленных работнікаў гэтага прадпрыемства.

**Фота Я. Цялушэцкага**

## Ф·А·

Allegretto

Па са-доч-к

це-раз род-н

*Па садочку хожу,*
*коня ў руках вожу*
*цераз родну маму*
*ніжанаты хожу.*
*Цераз родну маму*
*ніжанаты хожу.*
*А я маму перэпрошу*
*а я маму перэпрошу,*
*а сваю Марысю*
*дадому запрошу.*
*А сваю Марысю*
*дадому запрошу.*
*Прывёз я Марысю*
*стала ў куточку:*
*— Прымі, прымі, ма*
*за родную дочку.*
*— Прымі, прымі, мама,*
*за родную дочку.*

*меў я ўсю надзею.*
*На цябе, Марысю,*
*меў я ўсю надзею.*

Ад Зоф'і Скепка, 1943 года нараджэння, вёска Баб'я Гара гм. Нараўка, запісаў у ліпені 1976 г. М. Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі — Людмілы Панько.




## АБЕД у НАРВЕ

Адкінуў я спісак страў, якія сваім гасцям прапануе рэстаран „Над Нарвай“, і бездапаможна паглядзеў на афіцыянтку.

— Ці заказваеце што? — прабурчэла яна.

— А што ж магу заказаць?

— Прапаную на першае блюда кіслае малако, а на другое папулярны бігас або мясныя піражкі. Запіць гэта можна мандарынкай або півам.

✲

Не так даўно спыніўся я ў Нарве, каб крыху падсілкавацца ў тутэйшым рэстаране. Чакаючы афіцыянтку, пачаў я вывучаць прапанаваныя стравы. Найперш даведаўся, што рэстаран ад 1 да 5 гадзіны пасля абеду прапануе сваім гасцям на дзесяць працэнтаў таннейшыя фірмавыя абеды. Інфармацыя прыемная, завастраючая апетыт, бо хто ж з нас, смяротных, не спакусіцца на тое, каб добра і танна пад'есці.

✲

Рэстаран „Над Нарвай“ вельмі ўмоўна падзелены на дзве часткі: там, дзе п'юць гарэлку і замацоўваюць яе півам, і там, дзе запраўляюцца адным толькі півам. Афіцыйна гэты падзел называецца так: „зала безалкагольная“ і „зала алкагольная“.

Пакуль прыйшла афіцыянтка, я выслухаў вельмі гучныя нараканні нейкага заслюненага тыпа, які кляваў носам у стол, застаўлены цэлым арсеналам пустых бутэлек ад піва і безупынку паўтараў, дзе ён мае нейкага там кіраўніка і што гэты кіраўнік можа яму насыпаць на вядомае месца.

✲

Урэшце лянівым крокам з'явілася афіцыянтка. Узіраючыся ў штосьці цікавае, што знаходзілася высока над маёй галавой, яна буркнула:

— Слухаю.

— Хацеў бы заказаць суп **„Бограч“**.

— Няма.

— Гэта ж ваша спецыяльнасць.

— Няма.

— То ж цяпер ледзь чацвёртая гадзіна пасля абеду.

— Заказваеце што ці не? — катэгарычна заявіла афіцыянтка, глянуўшы ўрэшце на мяне, каб пераканацца, што за тып завітаў у іх рэстаран і не патрабуе ані піва, ані гарэлкі, а толькі ўчапіўся да супу, які мае быць спецыяльным блюдам іх ГС-аўскага рэстарана.

— Дык дайце мне гарохавага супу і схабовую катлету, — папрасіў я.

— Няма.

— Дык калі ласка курыны булён і вараную курыцу з бульбай.

— Няма.

✲

Што ж было мне рабіць, калі кішкі марша ігралі. Кіслае малако напамінала сыроватку з мінулага тыдня, бульба, якую афіцыянтка падала да гэтага малака, была зусім адубянелай, быццам пазаўчарашняй, мясныя піражкі сваёй устойлівасцю напаміналі засушаныя галкі. Адно піва, якога я не люблю, было тут быццам нармальнае.

Калі я змагаўся з гэтым абедам, афіцыянтка здалёк спазірала на нетыповага госця, і здалося мне, што яна неяк думае пра мяне:

— Еш, каб ты ўдавіўся, а калі не з'ясі, дык і так свінням аддамо.

✲

Захацелася мне пагутарыць з кіраўніцтвам гэтага рэстарана. На жаль, кіраўнічка **Аліна Бельская** паехала ўжо дамоў, а шэф па кухні **Аля Кур'яновіч** аказалася раптам вельмі занятая і не ўпаўнаважанай для гутарак з цікавымі госцьмі.

✲

Калі я канчаў гэты „абед“, пры суседнім століку ў безалкагольным адсеку расселіся дзве размаляваныя прыгажуні з трыма сваімі сябрамі. Закурылі, зашчабяталі, і адразу стала весела ў рэстаране. Тут жа з'явілася пры іх павесялеўшая афіцыянтка.

— Ну, на пачатак — па два піва на галаву, — загадаў адзін з доўгавалосых юнакоў.

Афіцыянтка тут жа прынесла заказанае „блюда“. А я падумаў:

— Дзе ж ты тут пхаешся са сваім адмысловым абедам. Ганяй хутчэй дамоў!

Дамоў, на жаль, было яшчэ далёка, ды і службовыя абавязкі спынілі мяне ў навакольных вёсках. Карысць ад абеду ў рэстаране „Над Нарвай“ была такая, што я пасля яго вымушаны быў шмат хутчэй бегаць па вясковых загуменнях.

**М. Нурэцкі**

# ЦІКАВАЯ ЗНАХОДКА



Няма, бадай, дня, каб зямля не выяўляла нам сваіх штораз то новых таямніц. Вось нядаўна Мікалай Бушко з Белавежы, аручы сваё поле ва ўрочышчы „Шырокае“, выараў нейкі цікавы каменьчык. Калі падняў яго з зямлі і абцёр з пяску, паказаўся крамянёвы тапорчык. Такія тапорчыкі выраблялі ў эпосе неаліту, г.зн. 4 000 — 1700 гады да нашай эры. Гэтага тыпу знаходкі на тэрыторыі Белавежскай пушчы і наваколля не навіна, ды на самай Белавежскай паляне здарылася гэта толькі цяпер.

Падаем размеры тапорчыка. Даўжыня — 12 см, шырыня — 5 см, таўшчыня — 4 см, вага 45 дкг, дыяметр дзіркі — 2,3 см.

Дзеля дакладнасці трэба сказаць, што гэта не першая (спадзяемся, што і не апошняя) знаходка Мікалая Бушко. Некалькі гадоў назад знайшоў ён ва ўрочышчы „Пажары“ шкляны пацёрык, датаваны даўнімі часамі, аб якім гаворыцца нават у манаграфіі археалагічных прац і знаходак на тэрыторыі Белавежскай пушчы.

М. Бушко з'яўляецца шматгадовым працаўнікам Белавежскага дзяржаўнага парку. Славіцца як чучальнік лясной звярыны.

На здымку Мікалай Бушко дэманструе знойдзены на сваім полі неалітны тапорчык.

Тэкст і фота
**П. Байко**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### КРАКАДЗІЛЫ... ПАД РЫМАМ

Паказаная нядаўна па італьянскаму тэлебачанню серыя фільмаў аб прыгодах Тарзана зноў прынесла тут папулярнасць гэтаму паўзабытаму кінагерою. Мясцовыя газеты выказваюць меркаванне, што іменна кадры, якія паказваюць адчайныя і бясстрашныя сутычкі Тарзана з тыграмі і алігатарамі навялі паліцыю на думку зрабіць вобыск на віле ў нейкага Паскуале дэль Гаудзіо ў мястэчку Сан-Феліччэ-Чырчэо пад Рымам. У выніку вобыску быў выяўлены падземны басейн, у якім плавалі сто пяцьдзесят маленькіх кракадзілаў. Непадалёку паліцэйскія выявілі „лабараторыю“, у якой, як яны лічаць, забівалі кайманаў для выраба з іх скуры жаночых сумачак і іншых галантарэйных рэчаў. Гаспадар гэтага „тэрарыума“ быў вельмі расстроены накладзеным на яго „выхаванцаў“ секвестрам і заявіў, што вельмі даражыў імі. Яго заява нікога не здзівіла, таму што квадратны сантыметр скуры кайманаў гэтай разнавіднасці каштуе некалькі дзесяткаў тысяч лір...

### КАСТУСЕЎ КОНЬ

— У мяне незвычайна разумны конь, — хваліўся Парфен Кастусю, — ён нават умее лічыць.

— А ў мяне конь дурны, — сумна адказаў яму Кастусь. — У мінулым годзе я ўпаў з яго, дык ён адправіўся ў горад і прывёз мне...

— Лекара?

— У тым вось і справа, што не лекара, а ветэрынара!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У канторы таварыства аховы жывёлін раздаецца тэлефонны званок.

— Прыязджайце неадкладна, — усхвалявана гаворыць чыйсьці голас, — у нашым садзе на дрэве сядзіць пісьманосец і дражніць нашага дога!

*

Пастар у англіканскай царкве не разумее паводзін аднаго са сваіх прыхаджан, які кожны раз, калі да яго падносяць скрынку для ахвяраванняў, гаворыць:

— У мяне абанемент.

Нарэшце пастар спытаў яго:

— Што значаць вашы словы?

— Бачыце, два месяцы назад я памылкова апусціў у скрынку дзесяць фунтаў стэрлінгаў...

*

Падарожнікі сустрэлі ў джунглях туземца, які люта біў у барабан.

— Я ведаю гэты рытм, — прашаптаў адзін даследчык другому, — ён просіць вады. Зараз мы праверым.

— Скажыце, калі ласка, — звярнуўся ён да туземца, — вы просіце багоў дажджу?

— Вы ўгадалі, — адказаў туземец. — Дакладней, я шукаю слесара, каб ён паправіў водаправод.

# НІЎКА



*Асенні матыў.*

### ЦІШЭЙ ЕДЗЕШ...

Начальнік пытаецца ў падначаленага:

— Чаму вы спазняецеся на работу?

— Ды ўсё не вязе неяк...

— Як не вязе? Транспарт падводзіць?

— Не ў гэтым справа... Ведаеце, усё жыццё так. У дзяцінстве позна пачаў хадзіць, размаўляць — таксама. Затым — позна пайшоў у школу. Позна ажаніўся...

— Магчыма, усё гэта так і было, але спазніцца на работу вы ўсё роўна не маеце права.

— Прабачце, я пазней затрымаюся на рабоце!

— Мяне цікавіць не толькі сённяшні выпадак, а наогул вашы адносіны да працы.

— О, не хвалюйцеся, таварыш начальнік! Я ж пазней выйду на пенсію, а значыць, больш за іншых папрацую.

**Павел Саковіч**

### МІКОЛКА

Бацька паслаў Міколку на пошту і даў яму пісьмо. Ды ў спешцы ён забыў напісаць адрас. Калі Міколка вярнуўся, бацька спытаў:

— Ці ж ты не прыкмеціў, што на пісьме няма адрасу?

— Прыкмеціў. Але я думаў, што ты не хочаш, каб я ведаў, каму пісьмо.





### ЛІСТ АД ЖОНКІ

Сяржант раздае салдатам лісты з дому. Адзін з іх выймае з канверта чысты аркуш.

— А гэта што такое? — пытае сяржант.

— Ліст ад жонкі.

— Але ж там нічога не напісана!

— Мы з ёю пасварыліся і не размаўляем.



...Дакладчык не датыкаўся да вострых пытанняў — баяўся парэзацца.

### У ШПІТАЛІ

Чалавека прывезлі ў палату пасля аперацыі.

— Слава Богу, — слаба прамармытаў ён, — усё па-за намі.

— Не спяшайцеся, — сказаў сусед па палаце, — у мяне, напрыклад, у целе забылі ножанкі...

— А ў мяне пальчаткі, — дадаў другі сусед.

У гэты момант з калідора чуецца голас хірурга:

— Хто бачыў мой капялюш?





*— Ало, ідуць Сілікатуны!..*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Альжбеты Печынскай і Іланты Петшыкоўскай з Пілік, Валі Наумюк і Ноны Леўчук з Клейнік, Галены Федарук з Зубава, Анкі, Надзі і Якуба Нікіцюкоў са Ступнік, Вяславы Барануўскай з Пілатоўшчыны, Галены Карповіч з Юзафова і Анны Палешчук з Гарадка змяшчаем песню

## Odpływają kawiarenki

słowa: Jerzy Kleyny
muzyka: Wojciech Trzciński
śpiewa: Irena Jarocka

A kiedy już przyjdzie czas —
Pełne po brzegi są kawiarenki...

Pod okna ich pełne gwiazd,
Gdzieś w zakamarki wielkich miast
Ciągnie nas!

Kawiarenki, kawiarenki,
Małe tak, że zaledwieś wszedł,
Źniżasz głos aż po szept...
Mimochodem, kamień w wodę,
Wpadnie coś z bardzo wielkich spraw
W czarną toń małych kaw...

Kawiarenki, kawiarenki,
Z cienia wpół, i ze światła wpół —
Ty i ja, i nasz stół...

Za witrażem szklanych marzeń,
Ledwo świat poznajemy już —
Choć jest tuż...

Miejsc w koło nas coraz mniej,
Już dymi z okien złotym obłokiem,
I barman już woła: — hej!
Już kawiarenka rusza w rejs,
Wielki rejs!

Kawiarenki, kawiarenki,
stolik nasz w nieważkości lamp,
Krąży tu, krąży tam...
Filiżanki — białe ptaki,
Lecą wprost w kolorowy dym,
Płyną w nim, giną w nim...
Pan i Pani zaszeptani,
Któż to wie gdzie naprawdę są,
Ona z nim, i on z nią...
Kawiarenki, kawiarenki,
Porwą gdzieś w siódme niebo aż
Stolik nasz!

### ГАСПАДАР

— Ты гаворыш ува сне?

— Не. А ты?

— Я гавару. Інакш мне ніяк нельга.

— Чаму?

— Гэта адзіная магчымасць сказаць нешта ў сваім доме.

### ПА ГРЫБЫ

Восень шчодрыя дары
Нам падносіць — на, бяры.
Таўстуны-баравічкі
І лісічкі, бы цвічкі.

І аматары дароў
З розных сёл і гарадоў
Перад парай выхадных
На жалезных варанах,
А працей — на трактарах,
Аўтакранах,
Аўтакрамах
Прыязджаюць у бары
Па дабротныя дары.

Што ж, збірайце, ваша права,
Толькі вось у чым тут справа,
Ну, навошта ж аўтакраны,
І тым болей — аўтакраны,
Самазвалы, трактары
Па грыбы гнаць у бары?

**Міхась Стральцэвіч**





### ПАКРЫЎДЖАНЫЯ КУРЫ

Вясной гэтага года швейцарскія фермеры выпусцілі на плошчу перад будынкам урада ў Берне 1200 курыц... Ні ў чым непавінныя птушкі, павінны былі выказаць пратэст супраць імпарту ў краіну танных яек. Гэта было непаўторнае відовішча. Атрымаўся небывалы беспарадак на плошчы.

Аднак фермеры не дасягнулі сваёй мэты. Наадварот, яны панеслі страты. Частка курэй збегла невядома куды, а частка была вылаўлена і адпраўлена ў заалагічны сад. А тут яшчэ і другая непрыемнасць: бернскае таварыства аховы жывёл аб'явіла, што падасць на фермераў у суд, таму што яны выпусцілі курэй на людную плошчу і гэта выклікала ў бедных курэй шокавае становішча — у сумленных нясушак парушыўся крывазварот.

Тут ужо не скажаш — курам на смех. Тут і людзям не да смеху.

### ЗАБЛУДЗІЎСЯ

У Нарвегіі быў затрыманы ўзломшчык „са стажам" нейкі Ерлінг Матысен, які ўцёк некалькі месяцаў назад з турмы. Выпадак, у прыватнасці, малазначны, калі б не адна абставіна: хаваючыся ад праследавання паліцыі, Матысен заблудзіўся і, стомлены, задрамаў, як потым аказалася, на тэрыторыі аднаго з ваенных аб'ектаў НАТО, якія строга ахоўваюцца.

### ХТО ЦЯЖЭЙ?

У 1958 годзе ў амерыканскім горадзе Брэмене памёр самы цяжкі чалавек на зямлі Роберт Х'юлас, вага якога была 483 кілаграмы.





Добры настрой і ў дрэнных людзей бывае.

Імпартгумар

## Рандэву

— Ало, гэта Галя?

— Не, вы памыліліся нумарам.

— Выбачайце. Зрэшты, я дарэмна марыў аб такой прыемнай памылцы. А як вас завуць?

— Валя.

— Цудоўна. Што вы робіце сёння вечарам, Валя?

— Нічога.

— Давайце разам нічога не рабіць. У сем ля тэлеграфа. Згода?

— Што вы! Мы ж зусім не знаёмы. А як мы пазнаем адзін другога?

— У мяне ў руцэ будзе газета, Валя.

— У кожнага цяпер у руцэ газета. А што ў газеце?

— Бутэлька віна, Валя.

— Якога?

— Пладовавыгаднага.

— Абазнаюся. Ва ўсіх цяпер пладовавыгаднае.

— Партвейн № 15 пасуе?

— Баюся, размінемся.

— Рубін?

— Не, не пазнаю.

— А як наконт лікёру?

— Лепш, але не тое.

— Тады, Валенька, у мяне ў руцэ будзе шампанскае.

— Вашы рысы пачынаюць вырысоўвацца. Маленькая дэталь, а як усё заіграла! І, аднак, патрэбна нешта больш прыкметнае.

— Каньяк тры зорачкі зможа быць пуцяводнай зоркай?

— Так, але толькі пяць. А што ў вас будзе ў другой руцэ?

— Маласольныя агурочкі.

— Не адпавядае.

— Тады пара лімонаў.

— Дасканала! Не хапае яшчэ некалькіх яркіх штрыхоў.

— Каробка цукерак вылучыць мяне з натоўпу, Валя?

— Гледзячы якіх?

— Напрыклад, „Буравеснік".

— Фі!

— Шакаладны набор?

— З ім я вас, бадай, пазнаю нават здалёк.

— Ітак, са мною ўсё ясна. А што будзе ў вас у руцэ, Валя?

— Чырвоная сумачка.

— Ва ўсіх цяпер чырвоныя сумачкі. Што ў ёй?

Пашпарт.

— З гарадской прыпіскай, спадзяюся?

— Вядома.

— А што яшчэ ў сумачцы?

— Ключы ад сэрца.

— І толькі?

— Ключы ад маёй двухпакаёвай кватэры.

— І толькі?

— Ключы ад „Жыгулей".

— Дастаткова, Валя! Я вас пазнаю нават з закрытымі вачыма. Толькі навошта цягнуць да сямі? Сустрэнемся зараз ля загса. Згода?

— Дамовіліся.

**В. Катэнка**
(СССР)